Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 37(73) 13-19 верасня 1996 года Цана 1500 руб.

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

6 верасня дэпутаты Вярхоўнага Савета разам з прэзідэнтам пачалі абмеркаванне пытання "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і мерах па яго зябеспячэнні". Спачатку з тлумачэннем сваёй ініцыятывы выступіў і адказаў на пытанні дэпутатаў А. Лукашэнка. Вось некалькі фрагментаў адказаў: "Ні капейкі з бюджэту не вазьму. Ужо падрыхтаваны мой зварот да дзяржаўных устаноў, выбарчых участковых камісій з просьбай правесці рэферэндум бясплатна. Ёсць прапановы працоўных калектываў унесці па 2-3 мільёны на правядзенне рэферэндуму", "Не хвалюйцеся з тэрмінам прэзідэнцтва Лукашэнкі. Я буду прэзідэнтам 12 год! На рэферэндуме я выношу на суд народа і персону Лукашэнкі."

У час пленарнага паседжання Вярхоўнага Савета пастаянна ўздымалася тэма асвятлення радыё і тэлебачаннем дзейнасці ўсіх галін улады. Выказвалася прапанова прыцягнуць кіраўніцтва Белдзяржтэлерадыёкампаніі да крымінальнай адказнасці за невыкананне пастановы Вярхоўнага Савета аб прамым эфіры ў час абмеркавання пытання аб рэферэндуме. (Трансліравалася, як вядома, толькі выступленне прэзідэнта і яго адказы на пытанні, а не выступленні дэпутатаў, якія пачаліся пазней.)

І тут было вельмі шмат важнага для нашага грамадства. Так, віцэ-спікер Васіль Новікаў, а затым і яго таварыш па камуністычнай партыі Сяргей Калякін выступілі з прапановай альтэрнатыўнага праекта Канстытуцыі. Ён прадугледжвае ліквідаваць інстытут прэзідэнцтва ў Беларусі, гэта значыць, прапануецца варыянт парламенцкай рэспублікі. Акрамя гэтага пытання выносяцца, па ініцыятыве 84 дэпутатаў, яшчэ два пытанні на рэферэндум: Ці выступаеце Вы за тое, каб кіраўнікі мясцовых органаў выканаўчай улады выбіраліся непасрэдна жыхарамі адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак? Ці згодныя Вы, што фінансаванне ўсіх галін улады павінна ажыццяўляцца адкрыта і толькі з дзяржаўнага бюджэту?

Такім чынам, на рэферэндуме 27 лістапада 1996 года будзе ўжо сем пытанняў і прапануюцца два варыянты Канстытуцыі. А раней дэпутаты прынялі папраўкі ў Закон аб рэферэндуме: адмянілі галасаванне з дапамогай выязных урнаў і ўнеслі пункт, што вынікі рэферэндуму не сапраўдныя, калі ў яго ходзе будзе дапушчана хоць адна памылка (падробка дакументаў, замена фармулёўкі пытання, парушэне парадку правядзення галасавання). І для яшчэ большай надзейнасці дэпутаты выбралі старшынёй Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Віктара Ганчара. Той адразу заявіў, што выбары і рэферэндум будуць праходзіць у поўнай адпаведнасці з законам.

Ініцыятыва поўнасцю ў руках парламента. Супрацьстаянне працягваецца. Чым адкажа прэзідэнт?

**Аляксандр УЛАДЗІН.**





## Адкуль узялася смерць?

*МАЛАДЗЕЧНА. Спыніліся жыцці двух хлопчыкаў, для якіх разам з іншымі другакласнікамі СШ№4 толькі адчыніліся дзверы школы.*

Панядзелак, 9 верасня. Звычайныя заняткі ў класе. Потым абед дома. Двор ля Віленскай, 17, дзе дзеці заўсёды бегаюць, шумяць, заклапочаныя сваімі справамі. Хлопчыкі, два Сашы, нешта панеслі да агароджы. Смеццевае месца побач з драўлянай будкай. Рукой падаць да толькі што пабудаванага дома з шыкоўнымі кватэрамі. Там некалькі месяцаў навасёлы - у асноўным, банкіры, прадпрымальнікі - аддзелваюць і прыбіраюць свае кватэры. Ніхто асабліва не прыглядаўся, чым зацікавіліся маленькія хлопчыкі.

Моцны выбух... Адарваныя канечнасці... І вялікія-вялікія вочы дзяцей. Нічога не разумеюць. Толькі боль. "Дапамажыце..."

Няма большай жудасці, чым бачыць, як памірае дзіця. Ад бяссілля дапамагчы можна было звар'яцець.

Урачы хуткай дапамогай канстатавалі смерць аднаго на месцы здарэння. Другі Сашанька памёр па дарозе ў бальніцу.

Пачалося расследаванне. Якім чынам у звычайным гарадскім двары ў дзіцячыя рукі трапіла смерць? Ці адзіная яна была? Каму прызначалася?

**Святлана САРОКА.**

## Ад 5 да 10

*МАЛАДЗЕЧНА. Гарвыканкомам прынята рашэнне аб стварэнні паркавак аўтатранспарту ў цэнтры горада, паблізу гандлёвых цэнтраў, рынкаў.*

Як паведамілі работнікі службы бяспекі "Славянін", якая поўнасцю іх абслугоўвае, платныя паркоўкі працуюць у дні работы рынкаў з 6 да 14 гадзін па вуліцах імя Валынца, Хмяльніцкага, Талстога, на Цэнтральнай плошчы, Вялікім Гасцінцы (ад вуліцы Хмяльніцкага да Віленскай).

Кошт гадзіны для легкавых машын 5 тысяч, грузавых– 10. За перавышэнне тэрміну паркоўкі на 15 хвілін трэба плаціць, як за гадзіну. Да вас падыдуць хлопцы ў



чырвоных камізэльках. Адмовіцеся плаціць– ніхто біць не будзе. А "башмакі" з колаў здымуць работнікі ДАІ. За 50% мінімалкі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Адным абзацам

□У мінулую суботу прэзідэнт Беларусі пабываў з кароткім рабочым візітам у Маскве, дзе сустрэўся з кіраўнікамі РФ. Але асобна па значнасці выдзелілася ягоная сустрэча з сакратаром Савета бяспекі А. Лебедзем і міністрам абароны І. Радзівонавым, з якімі былі абмеркаваны пытанні ўзаемадзеяння ўзброеных сіл дзвюх краін. Што яно прынясе для Беларусі– пакуль невядома. 12-13 верасня чакаецца прыезд Радзівонава ў Віскулі.

□У Мінскім гарадскім судзе завяршыўся працэс па справе 7 грамадзян Украіны, якія былі арыштаваныя ў Мінску 26 красавіка. Ім інкрымінаваліся парушэнні па двух артыкулах КК РБ. Па першым ставіліся ў віну зняважэнні работнікаў міліцыі, але па ім падсудныя былі апраўданы, а прызнаныя вінаватымі па другім– за актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, што парушаюць грамадскі парадак. Затрыманыя асуджаныя да розных тэрмінаў зняволення ў калоніі агульнага рэжыму– ад 1 да 2,5 год.

□На базе алімпійскага спарткомплекса "Стайкі" прайшоў міжнародны семінар па барацьбе айкідо. Праводзіў яго адзін з лепшых майстроў свету японец Мінорэ Канецука (7 дан). Паспяхова выступілі ў складзе каманды Беларусі спартсмены з Маладзечна.

□На ўліку ў Маладзечанскай інспекцыі па справах непаўналетніх 185 правапарушальнікаў. Рост злачынстваў у параўнанні з мінулым годам павялічыўся на 57%. Лідэрамі ў сваіх катэгорыях выступаюць вячэрняя школа і ПТВ-21.

□У Маладзечне адкрылася першае ў вобласці маладзёжнае кафэ. "Ронда" пабудавана на сродкі Беларускага Саюза Моладзі. На прэзентацыі выступала Іна Афанасьева. А "зорка" у благое месца не пойдзе.

□7 верасня прайшоў чарговы Сойм БНФ "Адраджэнне". Ён прыняў рэзалюцыю, у якой заявіў, што ў сённяшняй антыдэмакратычнай сітуацыі не лічыць магчымым для сябе ўдзельнічаць у кампаніі выбараў і рэферэндуму. Разам з тым БНФ працягвае масавую арганізацыйную і растлумачальную працу, арганізоўвае кантроль на рэферэндуме і выбарах. У выпадку, калі Вярхоўны Савет у бліжэйшы час даможацца стварэння дэмакратычных умоў для правядзення выбараў і рэферэндуму, Сойм пакідае за сабой магчымасць змяніць гэтае рашэнне.

□У мінулую суботу ў Мінску адбылася канферэнцыя Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Партыі (БХДП). Абрана новае кіраўніцтва. Лідэрам стаў старшыня дабрачыннага Фонду "Дзецям Чарнобыля" прафесар Генадзь Грушавы. Намечаны далейшыя шляхі дзейнасці, запланаваны першы з'езд БХДП, які мусіць адбыцца ў лютым наступнага года.

## Навіны

### Бітва працягласцю ў тыдзень

*ВІЛЕЙКА. Спынены адзін з самых магутных за гісторыю раёна пажараў.*

У трохкутніку вёсак Бубны, Слабада, Дзямідкі загарэлася драбналессе, тарфянікі. Па контуры згарэла каля 500 гектараў плошчы Мядзельскага лясгаса.

Тушылі вілейчане. Звыш за тыдзень ваявалі з агнём пажарныя ваенізаванай часці, калгаснікі. ПМК-1 хутка перакінула ў ачаг усюдыходныя бульдозеры. Калгасы "Чырвоны Кастрычнік", "Барэц" падвозілі на "Кіраўцах", Т-150 да пажарных машын 10-12-тонныя бочкі з вадою. Кіраўнікі гэтых гаспадарак далі загад калоць свіней і нападзіць харчаванне на месцы. Штаб грамадзянскай абароны звярнуўся ў Мінск, каб дапамаглі верталётам вызначыць контуры пажару і дакладна скласці план работ па ліквідацыі агню. Адказныя асобы спаслаліся на адсутнасць сродкаў: адна гадзіна эксплуатацыі верталёта каштуе 500 долараў.

Страты падлічваюцца. Напрыклад, толькі бензіну зрасходавана больш за тону. Каб агонь не перакінуўся на Слабаду, перааралі поле, дзе толькі што пасеялі ячмень і канюшыну. Паўтарылася сітуацыя 1992 года, калі з таго самага тарфяніка агонь перакінуўся на вёску Бубны.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бутэлькай абараняў Беларусь

*МАЛАДЗЕЧНА. На дзевятай хвіліне футбольны матч на Кубак UEFA паміж "Атакай-Аўрай" і турэцкім "Антальяспортам" спыніўся— Сяргей Вінаградаў кінуў на поле пустую бутэльку з-пад піва "Стары замак".*

Спачатку дваццацічатырохгадовы слесар участка цеплавых сетак ВА "Камунальнік" крычаў: "Суддзю на мыла!" Але той яго не чуў. Тады з п'яных рук і паляцела бутэлька. Матч спыніўся на 4 хвіліны.

Адна хвіліна тэлетрансляцыі каштуе круглую суму ды яшчэ і ўзнікла небяспека для гульцоў і суддзяў. Камісія UEFA аштрафавала Беларускую федэрацыю футбола і "Атаку" на 3 тысячы швейцарскіх франкаў (крыху больш за 2 тысячы долараў ЗША).

Мясцовай міліцыі здалі хулігана самі балельшчыкі. Вінаградава судзілі па артыкулу "Злоснае хуліганства" (ад года да пяці).

–Я болей так не буду,– плакаў падсудны.

–Ён абараняў Беларусь,– сцвярджаў адвакат.

З улікам таго, што падсудны ні разу не прыцягваўся да адказнасці, добры работнік, мае дзевяцімесячнае дзіця і адразу прызнаў сваю віну, суд вызначыў яму 2 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на год.

Хто ведае, можа, беларуская федэрацыя футбола яшчэ падасць і грамадзянскі іск на Вінаградава– пытанне, ці будзе плаціць хуліган "зялёныя", на судзе не ўздымалася.

**Васіль САВІЦКІ.**

### Дзяржава, грошы "гані"!

*АСТРАВЕЦ. Тое, што так доўга чакалі людзі, у рэшце рэшт пакрысе пачало збывацца. Гаворка ідзе пра кампенсацыйныя выплаты па грашовых укладах, якая знаходзіліся на рахунках у "Беларусбанку", па стану на 1.01 92 г. Праўда, не спяшайцеся радавацца, бо згодна з Указам прэзідэнта, гэтыя ўклады праіндэксаваныя ў 1000 разоў толькі ветэранам Айчыннай вайны.*

У астравецкім аддзяленні ААБ "Беларусбанк" на кампенсацыйныя ўклады налічана больш за 280 мільёнаў рублёў. Але нягледзячы на даволі істотныя выплаты пададзена толькі 54 заявы. Час не стаіць на месцы, і думаецца, што і астатнія ветэраны паспяшаюцца ў банк. Тым больш, што грошы тыя былі зароблены сумленнай працай, а дзяржава іх "праматала". Надышла пара вяртаць даўгі.

**Аддзел інфармацыі.**

### "Круглы стол" не адбыўся

*ВІЛЕЙКА. Па прыкладзе сталічных, вілейскія палітыкі таксама мелі намер сесці за свой "круглы стол".*

Па словах арганізатара яго, Уладзіміра АЛАДЗІНА, была дамоўленасць з кіраўнікамі мясцовых арганізацый усіх вядучых палітычных сіл— камуністамі, аграрыямі, АГП і БНФ. Але перад самой датай правядзення сустрэчы мясцовыя лідэры камуністаў і аграрыяў ад далейшых кантактаў адмовіліся. Калі ж тыя, хто прыйшоў на "круглы стол" у гарадскі ДК к прызначанаму часу, хацелі пачаць работу, ім гэтага не дазволіў выконваючы абавязкі дырэктара Дома культуры Валерый Скаражонак, спасылаючыся на забарону палітычных мерапрыемстваў у гэтай установе уладамі.

**Аддзел інфармацыі**

Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

**Працяг. Пачатак у №№28-34.**

***У працяг ранейшых публікацый сёння мы змяшчаем пералік персанальных справ вязняў турмы №26 у Вілейцы, якія былі перададзены ў 1941 годзе ў турму №1 УНКВД Разанскай вобласці без вязняў. Гэты пералік сёння захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі і ўпершыню быў апублікаваны ў Польшчы ў 1995 годзе. Магчыма у некаторых прзвішчах і імёнах будуць недакладнасці— вынік перакладу. Цалкам верагодна, што камусці вядомы лёс некаторых з вязняў. Рэдакцыя будзе ўдзячная за кантакт з намі.***

| №, прозвішча | год нар. | Калі, кім арыштаваны, паводле якога арт. крым. кодэксу. | У следстве (у чыім распараджэнні) або пакараны па якім артыкуле |
|---|---|---|---|
| 1. Абрамовіч Сруль Шлёмавіч | 1885 | 17.03.1941, нарсуд I інст. г. Вілейкі | 17.03.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі, арт. 155 КК БССР, 5год |
| 2.Андраеўская Таццяна Мікалаеўна | 1924 | 31.03.1941, нарсуд I інст. г. Вілейкі | 31.03.1941, суд. I інст. г. Вілейкі, арт. 241 КК БССР,1год |
| 3. Акцызнік Наталля Мікалаеўна | 1917 | 25.06.1940, гараддзел міліцыі г. Вілейкі | 4.10.1940 нарсуд I інст. г. Вілейкі па арт. 120 КК БССР, 1 год |
| 4. Аксючыц Яўгенія Юстынаўна | 1901 | 29.05.1941, нарсуд I інст. Крывіцкага р-на Вілейскай вобл. | 29.05.1941 нарсуд I інст. Крывіцкага р-на , арт. 241 КК БССР, 1 год |
| 5. Абрамэк Юззфа Вайцехаўна | 1925 | 24.05.1941, нарсуд I інст. г. Вілейкі | 24.05.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі, арт. 241 КК БССР,1год |
| 6. Аганоўская Ядвіга Іванаўна | 1912 | 10.05.1940 83 Слабадскі аддзел пагранвойскаў НКВД | 19.08.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120, 3 гады |
| 7. Берман Сара Веніямінаўна | 1901 | 19.05.1941 нарсуд I інст. Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 1.03.1941, нарсуд I інст. Куранецкага р-на , ат. 155 КК БССР, 5 год |
| 8. Бесякерскі Казімір Казіміравіч | 1924 | 14.05.1940 83 Слабадскі аддз. пагранвойскаў НКВД | 24.12.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120 КК БССР, 3 гады |
| 9. Баранская Яніна Станіславаўна | 1905 | 25.02.1940 III Аддзел Упраўлення НКГБ г. Вілейкі | 9.06.1940, аблсуд Вілейкі, арт. 22-120 КК БССР, 1 год 6 мес. |
| 10. Балкоўская Агата Нічыпараўна | 1883 | 15.07.1940, Куранецкі райаддзел УНКВД БССР | 29.11.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 74 КК БССР, 8 год |
| 11. Бушаль Эдуард Антонавіч | 1888 | 31.03.1940 III аддзел УНКВД г Вілейкі | 11.12.1940 надзв. нарада НКВД СССР, 5 год |
| 12. Уладыка Уладзімір Адамавіч | 1909 | 18.10.1940 нарсуд Ільянскага р-на | 18.10.1940 нарсуд Ільянскага р-на, арт. 241 КК БССР, 1 год |
| 13. Вячэрскі Баляслаў Аляксандравіч | 1909 | 21.03.1941 нарсуд I інст. Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 21.03.1941 нарсуд I інст. Куранецкага р-на, паст. 26.06.1940, 4 мес. |
| 14.695 Воронька Таццяна Якаўлеўна | 1900 | 25.03.1941 нарсуд Крывіцкага р-на Віл. вобл. | 25.03.1941 нарсуд I інст. Крывіцкага р-на, арт. 149 КК БССР, 1 год |
| 15. Вайтэцкая Яніна Іосіфаўна | 1923 | 22.05.1940 Ашмянскі аддз.пагранвойскаў НКВД | 26.08.1940 надзв. нарада НКВД ССР, арт. 120 КК БССР, 3 гады |
| 16. Вінцэлайд Ірэна Антонаўна | 1913 | 6.03.1941 Ашмянскі аддзел НКВД БССР | 23.06.1940 Вілейскі аблсуд, арт. 64 і 76 КК БССР, 10 год |
| 17. Выгдаровіч Ента Абрамавіч | 1889 | 18.03.1941 нарсуд Ільянскага р-на | 31.03.1941 нарсуд I інст. Ільянскага р-на, арт. 155 КК БССР, 6 год |
| 18. Вайчэня Антаніна Ігараўна | 1884 | 30.04.1940 83 Слабадскі аддзел пагранвойскаўНКВД | 19.07.1940 надзв. нарада НКВД СССР, арт. 120 КК БССР, 3 гады |
| 19. Вячэрская Ніна Пятроўна | 1920 | 21.03.1941 нарсуд I інст. Куранецкага р-на Вілейскай вобл. | 21.03.1941 нарсуд I інст. Куранецкага р-на, паст. 26.06.1940, 4 мес. |
| 20. Губскі Пётр Адольфавіч | 1915 | 12.09.1940 106 аддзел пагранвойскаў НКВД БССР | 26.05.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі, арт. 120 КК БССР, 32 гады |
| 21. Грыгольчык Варвара Пятроўна | 1923 | 8.04.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі | 8.04.1941 нарсуд I інст. г. Вілейкі, арт. 241 КК БССР, 1 год |

*Працяг будзе.*

СОС!

## Тоне вытворчасць

***СМАРГОНЬ. Тупіковая сітуацыя склалася ў мясцовай вытворчасці. Амаль што стаяць гіганты— агрэгатны завод, ВА аптычнага станкабудавання. Беспрацоўе.***

Напрыклад, на вытворчым аб'яднанні колькасць работнікаў апошнім часам скарацілася на 3 тысячы. Галіновыя міністэрствы не могуць змяніць стан спраў, таму гарвыканком накіраваў у Кабінет міністраў дакладную запіску з просьбай аб дапамозе.

Агрэгатнаму, які цяпер выпускае матаблокі, патрэбны грошы. Выплыве сам. А аптычнаму станкабудаванню добра б увайсці ў пэўны канцэрн, ці на сваёй базе стварыць сумеснае прадпрыемства. З вузкай спецыялізацыяй цяжка выжыць. "Наверсе" прапрацоўваюцца варыянты. Рабочыя прадпрыемстваў чакаюць канчатковага рашэння праблемы. І, безумоўна, якніяк працуюць.

*Аддзел інфармацыі.*

Юнген-фербант

## Госці з Эслінгена здзіўляюцца

***МАЛАДЗЕЧНА. Напрыканцы мінулага месяца сюды наведаліся госці з горада-партнёра Эслінгена. Гэта супрацоўнікі гуртка "Саюза хрысціянскай моладзі" ("Юнгент-фербант"), які мае 125-ці гадовую гісторыю.***

Сталая структура арганізацыі грунтуецца на падтрымцы з боку дзяржавы, царквы, грамадскасці. 9 штатных супрацоўнікаў і 250 грамадскіх сёння вядуць дзейнасць, якая аб'ядноўвае каля тысячы эслінгенцаў. Дзяцей, падлеткаў, дарослых.

Створаны самыя разнастайныя групы. Па ўзросту і інтарэсах. 20 гадоў працуе толькі адна з іх— "Цяжкіх падлеткаў". Завітаўшы сюды аднойчы "з вуліцы", дзеці застаюцца надоўга. Таму што цікава.

Сумесная прэс-канферэнцыя маладзечанскіх і эслінгенскіх удзельнікаў хрысціянскага руху паказала адзінства светапогляду і мэтанакіраванасці. Менавіта таму госці віталі стварэнне ў Маладзечне "Саюза хрысціянскай моладзі", абяцалі моцную падтрымку яго лідэру Мікалаю Капцюгу. Поплеч плануюць весці сваю работу.

На падставе хрысціянскага адзінства і пры падтрымцы савета грамадскіх арганізацый, будуць працаваць амаль усе скаўцкія арганізацыі горада. Дружына скаўтаў "Маладзечына", харугва імя Браніслава Тарашкевіча, беларускія скаўты з харугвы імя Льва Сапегі. Агульныя інтарэсы знайшліся ля "Саюза хрысціянскай моладзі".

Яскравае ўражанне ў візіцёраў з Нямеччыны засталося пасля адпачынку на Вілейскім вадасховішчы.

Не спадабаліся эслінгенцам мясцовыя дарогі. У час шпацыру па горадзе адзін з іх правaліўся ў яму, якую не заўважыў, азіраючы наваколле.

–У мінулы прыезд,– расказваюць госці,– Інгрыд такім самым чынам параніла нагу. Потым доўгі час хварэла.

А яшчэ нямецкіх гасцей частавалі шмат і часта, нібы тыя пастаянна хадзілі галодныя.

*Святлана САРОКА.*

# Крымінальныя паведамленні

## Азіяты ў Гудагаі. Не на экскурсіі

***АСТРАВЕЦ. Вясной, як пацяплее, на радзіму вяртаюцца птушкі. Падобныя на іх зараз і людзі, толькі імкнуцца яны не ў родныя, а ў чужыя краіны. Пра гэта сведчыць і хроніка пагранічных будняў.***

Цяжка сказаць, чаму рушылі да нас госці са Шры-Ланкі і з Індыі. Да сталіцы яны ехалі цягніком, а ў Гудагай дабіраліся на таксі— пэўна ж, былі пры грашах. Далей шлях ляжаў на Літву.

Дабрацца не ўдалося, бо на іх шляху сталі пагранічнікі. Пасля неабходных фармальнасцей падарожнікаў з цёплых краін перадалі ў міліцыю.

Крыху інакш паступілі з чатырма кітайцамі. Яны жывуць у Маскве і займаюцца гандлем. Па іх словах, праз Гудагай накіроўваліся ў Калінінград, каб даведацца пра кошт тавараў на рынку, ды ў дарозе згубілі замежныя пашпарты. Праўду казалі ці не, але пагранічны нарад павярнуў іх назад, у белакаменную.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Затрыманы "гастралёры"

***АШМЯНЫ. Банда з 4 чалавек— тры расіяніны і адзін мясцовы— пайшла на справу. Пры сабе мелі пісталет "ТТ".***

Старэйшаму з іх ледзь за трыццаць. Ноччу вырашылі абрабаваць жылы дом у вёсцы Кракоўка. Але і гаспадароў, і міліцыю хтосьці папярэдзіў. На жаль, гастралёры паспелі пакарыстацца пістапетам. Пацярпеў старшы лейтэнант Міхаіл Вабішчэвіч.

Банда затрымана. Ідзе следства.

*Аддзел інфармацыі.*

## "Аграрнік" мае ўлоў

***МАЛАДЗЕЧНА. Па плану аперацыі "Аграрнік" за кожным калгасам замацаваны супрацоўнікі міліцыі.***

Улада ловіць "добраахвотных памочнікаў" на ўборцы ўраджаю. За месяц затрыманы 49 злодзеяў, якія хацелі ўзяць у дзяржавы 10 мільёнаў рублёў збожжам, бульбай, запчасткамі да тэхнікі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Няўдача хай паплача

***АСТРАВЕЦ. Апошнім часам у многіх людзей з'яўляецца цікавасць да прадметаў сівой даўніны. Доказ гэтаму— два выпадкі на мытным пасту "Гудагай".***

Не так даўно ў цягніку "Масква-Вільнюс" супрацоўнікамі мытні ў люку падстолевай прасторы аднаго з вагонаў знайшлі іконы і іншыя прадметы рэлігійнага культу. Гаспадар іх ці то паспешліва рэціраваўся, ці то не захацеў прызнацца, ці то яго наогул не было. У такой сітуацыі мытнікі, як і належыць, канфіскавалі іконы і заняліся падлікам каштоўнасцей разам з экспертам. Чаго там толькі ні было— і 65 ікон і 5 крыжоў, і аклады для ікон, адзін з іх быў пакрыты сусальным золатам. Усе каштоўнасці адносяцца да 18-19 стагоддзяў і па папярэдняй ацэнцы экспертаў каштуюць прыкладна 2000 долараў ЗША. Цяпер праліць святло на гэтую справу спрабуюць супрацоўнікі КДБ па Гродзенскай вобласці.

А ў другім падобным выпадку нашым сілавым ведамствам нікога шукаць не прыйдзецца. Жыхар Расіі В. аблегчыў іх працу тым, што, правозячы 32 іконы мінулага стагоддзя, ні ад каго іх не хаваў. І пры мытным агпядзе іх да пары, да часу затрымалі на мяжы. Затым народны суд іконы канфіскаваў, а "вандроўніка", згодна з адпаведным артыкулам закона, пакараў. Што ж, няўдача хай паплача.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

Мы і дзеці

## У першы клас па новым маршруце

***АСТРАВЕЦ. Дрэнны падарунак напярэдадні мінулага Новага года атрымалі вучні і настаўнікі Алясінскай базавай школы, бо ад яе ў выніку пажару застаўся попел.***

Пасля такой бяды вучням давялося давучвацца ў дзве змены ў былых школьных майстэрнях. Але, зразумела, такое ўвесь час працягвацца не магло, бо цесната ў будынку не дазваляла належным чынам арганізаваць вучэбны працэс. І таму перад новым навучальным годам было прынята рашэнне, што ў Алясіне застаецца толькі пачатковая школа.

Астатнія ж вучні будуць вучыцца ў суседняй Градаўшчызненскай базавай школе. Але ўзнікла пытанне з дастаўкай дзетак. Мясцовы калгас не ў стане выдзеліць аўтобус. Сітуацыю вырашылі з дапамогай аўтапарка №4. Тут з такой нагоды прадоўжылі аўтобусны маршрут Астравец-Паракіці да Градаўшчызны і адначасова змянілі расклад, каб ён быў зручны для дзяцей.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Хто выхоўвае?

***МАЛАДЗЕЧНА. Раённы Дом творчасці дзяцей накіраваў Ксенію Стацун, сямікласіцу Радашковіцкай СШ, у "Зубраня".***

Па вяртанні дзяўчынка падзялілася ўражаннямі. Найбольш падабаліся важатыя. Адзін з іх па спецыяльнасці клоўн, другі— манекеншчык. Важатая іх атрада трымае дома дрэсіраваную пчалу, а яе калега збірае скарыстаныя жвачкі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Другі крок "Першага крока"

***ВАЛОЖЫН. У кастрычніку 1994 года адна з груп дзіцячага садка №3 адзіная на Міншчыне ўключылася ў эксперымент "Першы крок", які фінансуе Фонд Сораса ў Беларусі.***

Ідэя яго— максімальнае набліжэнне выхавання ў дзіцячай установе да сямейнага; дазвол дзіцяці рабіць тое, што пажадае, не абмяжоўваць яго; цеснае супрацоўніцтва з бацькамі. Каардынатары Фонду падтрымлівалі ўсе пачынанні выхавальнікаў, дапамагалі мэбляй, цацкамі, вітамінамі. Значныя сродкі адпускаліся на харчаванне ўсяго садка.

1 верасня выхаванцы пайшлі ў 1 клас. Пачалі працаваць два эксперыментальныя сорасаўскія класы, дарэчы, беларускамоўныя,– у СШ №1 і гімназіі. Эстафету падхапілі настаўнікі пачатковых класаў, якія прайшлі спецыяльныя курсы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## І вучыся, і лячыся

***МАЛАДЗЕЧНА. Для дзяцей з хваробай Даўна, дзіцячым цэрэбральным паралічом, алігафрэніяй, эпілепсіяй патрэбны спецыяльныя ўмовы развіцця. Спецыялісты дыягностыка-рэабілітацыйнага цэнтра, створанага ў горадзе паўгода таму, вывучаюць банк дадзеных аб дзецях да 15 год з анамаліямі псіха-фізічнага развіцця. Такіх тут выяўлена звыш за 5 тысяч.***

Ад пачатку навучальнага года 36 дзяцей дашкольнага ўзросту пачнуць заняткі па спецыяльна створаных для іх праграмах. Для тых, хто не мае магчымасці наведваць цэнтр, прадугледжаны сустрэчы з медыкамі і педагогамі ў дамашніх умовах, дзе таксама праводзяцца кансультацыі з бацькамі.

З дзецьмі будуць працаваць урач-псіхіятр, урач-педыятр, псіхолаг, настаўнік-дэфектолаг, музычны кіраўнік, масажыст, выхавальнікі, іншыя спецыялісты.

Распрацаваны аздараўленча-прафілактычныя мерапрыемствы. Працуе плавальны басейн, фізіятэрапеўтычны і масажны кабінеты. З гарадскога бюджэту выдзелены грашовыя сродкі на рамонт памяшканняў цэнтра, дзе пачынаюцца заняткі.

*Наталля РАБЧАНКА.*

## ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

**ПРАДАМ**

- А/м Опель-Рэкорд, 84 г. в., ц/замок, электрапюстэркі, люк, 5-ст. КПП. за $3500. Т. у Мал. 71737, 68481.
- А/м М-412 за $400. Т. у Мал. 53460 (толькі з 18 да 20-00).
- Самаробны трактар, рухавік М-412, б/у. Т. у Смарг. 92216.
- Прыват. дачны ўч-к з вагончыкам 0,06 га ў Татаршчызне (Мінскі напрамак). Т. у Мал. 50435 (д.), 71235 (р.).
- Добраўпарадкаваны гараж у ГК №12 (Могілкі), нядорага. Т. у Мал. 71008 (р.)
- Шчанят рускага спаніеля. Т. у Мал. 32048.

**ЗДАМ**

- Кватэру. Т. у Мал. 65157.

